# БЮЛЕТЭНЬ

Цэнтральнага Праўленьня Профэсыянальнага Саюзу сельска-гаспадарчых і лясных рабочых Б.С.С.Р.

г. Менск, Пляц Волі
Дом Працы
Тэлефон:
Старшыні ЦП № 4-08.
Агульны № 65.

ВЫХОДЗІЦЬ ПРАЗ КОЖНЫЯ ТРЫ ТЫДНІ

(Галоўныя пастановы Прэзыдыуму, дырэктывы Цэнтральнага Праўленьня, інфармацыя, адказы на запытаньні).

№ 10 (28) | 25-га Жніўня 1929 году | № 10 (28)

## ЗЬМЕСТ

1. Аб удзеле саюзу у хлебазагатоўчай кампаніі.

### Пастановы Прэзыдыуму ЦП.

1. Аб працы райінструктароў.
2. Аб рабоце камісій па ахове працы пры рабачкомах.

### Дырэктывы ЦП.

1. Аб прызыве 1907 году.
2. Пастанова СНК аб абавязковым дзяржаўным страхаваньні работнікаў лясніцтв.
3. Па статчасцы.
4. Аб арганізацыі пажарных дружын.

## Акраддзяленьям, Рабачкомам, С/Рабачкомам і Прафупаўнаважаным Саюзу Сельгаслесрабочых.

### Аб удзеле саюзу ў хлебазагатоўчай кампаніі.

„Асноўная задача нашай хлебнай кампаніі зьяўляецца ў тым, каб у адзнаку ад мінулых гадоў скончыць выкананьне гадовага пляну хлебазагатовак у паўднёвых раёнах да студзеня, а ў рэшце—да лютага“.

(З пастановы ЦК УсеКП(б) ад 29/VII „Правда“ № 179).

Выкананьне гэтае важнейшае задачы патрабуе максімальнага напруджаньня ўсіх сіл і сродкаў з боку партыі, саветаў і ўсёй пралетарскай грамадзкасьці.

Пагэтаму ўсе арганізацыі нашага саюзу, кожны батрак, рабочы саўгасу, лясьнік, лесаруб і спэцыяліст паасобку павінны дапамагчы ў выкананьні пляну хлебазагатовак, які зьяўляецца адным з зьвеньняў выкананьня пяцігадовага пляну сацыялістычнага будаўніцтва. Для арганізацыі ўдзелу н/саюзу ў хлебазагатоўчай кампаніі, ЦП прапануе забясьпечыць правядзеньне наступных мерапрыемств:

1) Шырока азнаёміць усіх батракоў, рабочых, лясьнікоў і спэцыялістых з пастановаю ЦК УсеКП(б) аб хлебазагатоўках (газета „Правда“ № 179, „Зьвязда“ № 181) і растлумачыць важнасьць і значэньне своечасовага выкананьня пляну хлебазагатовак, выкарыстоўваючы для гэтае мэты і другія матар'ялы. Азнаямленьне преводзіць шляхам пастаноўкі дакладаў на сходах рабочых, батракоў і спэцыялістых і прапрацоўкі гэтага пытаньня ў прафпалітгуткох.

2) У раёнах правесьці шырокія нарады прафактыву, прыцягнуўшы на гэтыя нарады членаў саюзу, абраных у саветы, КСУ, каапэрацыйныя і інш. арганізацыі, на якіх прапрацаваць паказаную вышэй пастанову, азнаёміць актыў з плянавымі заданьнямі па хлебазагатоўках для даннага раёну і супольна наметіць канкрэтныя формы ўдзелу ў хлебазагатоўках, даючы паасобным рабачкомам канкрэтныя заданьні што яны павінны рабіць.

3) У камісіі садзейнічаньня хлебазагатоўкам, якія будуць ствараецца пры

с/саветах, абавязкава выдзеліць лепшых клясава — вытрыманых актівыстых, зацьверджаючы іх кандыдатуры на сходах рабочых і батракоў, правяраючы іх работу ў гэтых камісіях.

4) Прафкалактывам саўгасаў шырока практыкаваць пасылку рабочых брыгад у вёскі для растлумачальнае работы сярод сялянства і арганізацыі калактыўнае здачы хлеба. Пры чым на падбор рабочых брыгад зьвярнуць асаблівую ўвагу і склад іх зацьвярджаць на сходах рабочых. Да пасылкі на вёску рабочыя брыгады павінны быць добра праінструктаваны.

5) Усе саўгасы абавязкова павінны дабіцца арганізацыі калактыўнае здачы хлеба ў падшэфных вёсках і пасёлках, а таксама ў тых вёсках, з якімі саўгасы заключылі дагаворы па сацыялістычнаму спаборніцтву.

6) Тыя саўгасы, якія яшчэ ня прынялі агрыкультурнага шэфства над вёскамі і пасёлкамі, павінны абавязкова ў час асеньняй сяўбы прыняць такое-ж шэфства і разгарнуць у час пасеўнае кампаніі сац. спаборніцтва з вёскамі, дабіваючыся ўключэньня ў дагаворы пунктаў аб калактыўнай здачы вызначанай колькасьці хлеба.

7) Асаблівую работу трэба правесьці сярод членаў саюзу, маючых свае гаспадаркі (лясьнікі, лесарубы, сплаўшчыкі) а таксама сярод сялян беднякоў і сараднякоў, якія будуць заняты на лесарасрацоўках, для чаго пытаньне аб хлебазагатоўках абгаварыць на сходах у лясьніцтвах, і ў арцелях лесарубаў і сплаўшчыкаў. Трэба дабіцца, каб лясьнікі, аб'ездчыкі, лесарубы і сплаўшчыкі, а таксама арцелі ў цэлым былі арганізатарамі і ініцыятарамі калактыўнае здачы хлеба ў сваіх вёсках, каб яны самі былі прыкладам у гэтай справе. Рабачкомы лясьніцтв і лесараспрацовак павінны даць кожнаму члену саюзу заданьне і праверыць як яны гэта выконваюць.

8) Батракі і пастухі павінны дапамагаць у выкрыцьці кулацкіх махінацыяў па зрыву хлебазагатовак і садзейнічаць выкрыцьцю лішкаў хлеба ў кулакоў з тым, каб праз садзейнічаньне грамадзкасьці прымусіць іх здаць хлеб дзяржаве.

9) Члены саюзу, працуючыя ў с./гаспадарчай каапэрацыі павінны забясьпечыць: поўны і сваечасовы збор закантрактаванага збожжа, выкананьне плянаў па кантрактацыі ў час пасеўкампаніі і выкананьне плянавых заданьняў па хлебазагатоўках. Рабачкомам, якія абслугоўваюць членаў саюзу, працуючых у с./гас. каапэрацыі, трэба заслухоўваць справаздачы крэдытных таварыстваў аб тым, як яны выконваюць плянавыя заданьні па хлебазагатоўках і дапамагаць работнікам с/г каапэрацыі ў іх рабоце.

10) Максымальна скарыстаць спэцыялістых сельскае і лясное гаспадаркі ў гэтай рабоце. Райупаўнаважаным сэкцый спэцыялістых прымацаваць усіх спэцыялістых на час хлебазагатовак да рабачкомаў для дапамогі ім у рабоце па садзейнічаньню хлебазагатоўкам.

11) Усю работу па садзейнічаньню хлебазагатоўкам праводзіць пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый, апіраючыся на бедняцка — серадняцкія пласты вёскі. Усіх рабочых і батракоў прыцягваць на сходы беднаты, дзе будуць абгаворвацца пытаньні аб хлебазагатоўках.

12) Растумачыць сярод рабочых саўгасаў неабходнасьць сваечасовае здачы саўгаскага збожжа.

Яшчэ раз падкрэсьліваючы надзвычайную важнасьць гэтых задач, ЦП прапануе ўсім арганізацыям прыняць усе захады да выкананьня гэтых дырэктыў, наладзіўшы сыстэматычную праверку гэтае работы ў рабачкомах, шырокае асьвятленьне гэтай работы ў друку і інфармацыю ЦП саюзу аб ходзе работы.

Старшыня ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых Бел. **Вайтэнкаў.**

Сакратар ЦП **Аскерка.**

# Пастановы Прэзыдыуму ЦП.

## Аб працы райінструктароў.

(*Пастанова Прзэыдыуму ЦП ад 17/VII-1929 г.*)

1) Праз арганізаваныя райкомы саюзу ў 1925 г., на якія ўскладалася задача: быць выключна сярод шырокіх саюзных мас, практычна дапамагаць і інструктаваць на месцы рабачкомы і с/рабачкомы ў іх штодзённай працы па выкананьню задач нашага саюзу, у працягу трох год саюз значна пашырыў і замацаваў нізовую саюзную сетку, асабліва ў частцы с/рабачкомаў.

Але з пашырэньнем саюзнае сеткі і пашырэньнем наогул сэктару саюзнай працы, райкомы пачалі паступова ператварацца ў саюзны апарат, які займаўся перадачай дырэктыў вышэйстаячых саюзных органаў у рабачкомы, а з скарачэньнем сеткі РК з 109 да 49, райкомы, як нізовыя саюзныя органы, не маглі здаволіць запатрабаваньняў шырокіх саюзных мас.

2) Апрача гэтага райкомы н.. сваё ўтрыманьне забіралі значную частку сродкаў саюзнага бюджэту, у прыватнасьці, сродкаў рабачкомаў, якія павінны былі ісьці на абслугоўваньне саюзнай масы і на пашырэньне сеткі с/рабачкомаў.

3) Такое становішча ў саюзе патрабавала безадкладнага перагляду саюзнай сеткі і прыстасаваньня яе да запатрабаваньняў шырокіх мас с.-г. рабочых,да чаго ЦП практычна і прыступіла ў сакавіку м-цы г. г., зьліквідаваўшы райкомы і стварыўшы інстытут інструктароў ЦП і акраддзяленьняў, якія знаходзяцца ў раёнах.

4) У выніку рэарганізацыі саюзнае сеткі мы маем:

а) Закончанае стварэньне інстытуту інструктароў ЦП па Менакрузе і інструктароў акраддзяленьняў другіх акруг, якія знаходзяцца ня ў цэнтрах акруг, а ў раёнах адміністрацыйнага дзяленьня БССР, гэта значыць саюз мае актыў у 109 чал., які штодзённа знаходзіцца ў нізовых саюзных органах—рабачкомах, с/рабачкомах і г. д. , сыстэматычна іх інструктуе і дапамагае практычна ў іх штодзённай працы.

б) У сучасны момант большасьць інструктароў ужо перайшлі на плянавую работу па абслугоўваньню рабачкомаў і с/рабачкомаў свайго раёну (Менская акруга цалкам перэйшла на плянавасьць).

в) Рабачкомы пад жывым кіраўніцтвам інструктароў сталі паступова поўнасьцю ўжываць свае правы, як саюзныя органы.

г) Платная с е т к а с/рабачкомаў шпарка пашыраецца. Калі за час з чэрвеня м-ца 1927 г. (VIIі-ы зьезд) да 1/1-29 г. сетка с/рабачкомаў вырасла з 47 да 160, дык з 1/1-29 г. па 1/VI-29 г. сетка вырасла на 200.

д) Усе галіны саюзнае працы на мясцох у рабачкомах і с/рабачкомах, як-та: праца па падрыхтоўцы да вылучэньня, па ўцягненьню батрацтва ў саюз, па падрыхтоўцы батракоў і с/рабочых у навучальныя ўстановы, работа вытворчых нарад і камісій, абарона батрацтва і пастушаства, у частцы ахопу іх працдагаворамі, падняцьцё зарплаты батракам і пастухам у параўнаньні з мінулым годам і г. д. знайшлі сваё поўнае адбіцьцё за кароткі тэрмін працы саюзу пры рэарганізаванай саюзнай сетцы.

5) Адзначыць, што ў рабоце райінструктароў ёсьць яшчэ шмат недахопаў, галоўныя з іх:

а) Адсутнасьць цьвёрдае плянавасьці ў наведваньні нізовых саюзных ячэяк, іх інструктаваньня і непасрэднай практычнай дапамогі апошнім у іх рабоце.

б) Наглядаецца, што с/рабачкомы і рабачкомы ў большасьці ня ведаюць каляндарнага пляну райінструктара, у зьвязку з чым ня могуць заняцца плянавай падрыхтоўкай складаных пытаньняў іх работы для сумеснага вырашэньня іх з інструктарам, у выніку чаго нізовыя ячэйкі ня толькі па складаных, але і па самых простых пытаньнях звярочваюцца ў ЦП саюзу, што з аднаго боку загружае апарат ЦП і акраддзяленьняў перапіскай з нізовай сеткай, а з другога — зацягваецца вырашэньне нават тых пытаньняў, якія па свайму характару павінны вырашацца толькі ў рабачкоме ці с/рабачкоме.

в) У рабоце інструктараў ня зьвернута яшчэ дастатковая ўвага асноўным пытаньням саюзнае работы на мясцох. Работа вытворчых нарад, праверка выкананьня калдагавораў, работа па ахопу працдагаворамі батрацтва і пастухоў і праверка іх выкананьня, культмасавая работа сярод сэзоньнікаў, пытаньні дапамогі па ўцягненьню сельгаслесрабочых і батрацтва ў п а р т ы ю і камсамол, сацыялістычнае спаборніцтва ў буйнай сельскай гаспдарцы і г. д

6) У далейшай працы інструктараў павінна быць строгая плянавасьць у правядзеньні ў с і х мерапрыемстваў н/саюзу і ў інстрктаваньні рабачкомаў і с/рабачкомаў.

7) Увага інструктароў побач з штодзённай саюзнай працай павінна быць згуртавана навакол галоўных пытаньняў нашай саюзнай, савецкай і грамадзкай працы. Гэтыя галоўныя пытаньні павінны быць плянава пастаўлены ў наступным парадку:

а) Сакавік-красавік—вясеньняя пасеўкампанія, вытворчыя нарады, падрыхтоўка да заключэньня дагавораў на пастухоў і сэзоннае барацтва і заключэньне дагавораў на сплаў;

б) Травень-чэрвень—заключэньне дагавораў на пастухоў і сэзоннае батрацтва, праверка ходу пасеўкампаніі, культабслугоўваньне сэзонных рабочых і падрыхтоўка ў навучальныя ўстановы;

в) Ліпень-жнівень—падрыхтоўка і пасылка ў навучальныя ўстановы, падрыхтоўка да асеньняй пасеўкампаніі, праверка выкананьня батрацкіх і пастушаскіх дагавораў з боку гаспадароў, культмасавая праца, уцягненьне ў саюз, партыю і камсамол і праверка ходу сацыялісчтычнага спаборніцтва.

г) Верасень-кастрычнік - падрыхтоўка да рашчотнай кампаніі батрацтва і пастушаства, падрыхтоўка да лікбезу, лесараспрацовак і зімовай культасьветнай працы.

д) Лістапад-сьнежань—праца лікбезу, культасьветная масавая праца і падрыхтоўка да дагаворнай кампаніі.

8) Пасьля кожных 2-х месяцаў устанавіць і праводзіць у акругах нарады інструктароў, дзе падагуліваць праробленую працу і намячаць практычныя мерапрыемствы ў далейшым. На нарады інструктароў выклікаць па аднаму старшыні рабачкому з кожнага раёну з інфармацыяй аб практычнай дапамозе інструктароў рабачкомам. Нарада павінна насіць аднача́сова і інструкцыйны характар саміх інструктароў.

9) Устанавіць парадак інфармацыі ў пісьмовай форме з боку інструктароў аб праробленай працы перад акраддзяленьнямі, а па Менскай акрузе—перад ЦП пасьля кожнага плянавага пэрыяду (1 раз—2 месяцы). Апрача таго райінструктары павінны галоўныя моманты сваёй працы на мясцох і вынікі яе асьвятліць у друку—газэта „Бел. Батрак“.

10) Даручыць Аргаддзелу пераглядзець і распрацаваць на далейшы час правы і абавязкі райінструктароў, выходзячы з вопыту інструктарскай працы і даручыць ім строга і поўнасьцю выконваць іх.

11) Зьвярнуць асаблівую ўвагу на якасны падбор інструктароў, рашуча вылучаючы на гэту працу нізовы прафактыў. Аднача́сова з гэтым даручыць Культаддзелу вывучыць пытаньне аб арганізацыі спэцыяльных курсаў для райінструктароў.

## Аб рабоце камісіі па ахове працы пры рабачкомах.

*(Пастанова Прэзыдыуму ЦП ад 7/VIII—29 г.).*

Сацыялістычная рэканструкцыя і капітальнае пераабсталяваньне прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, патрабуюць для свайго ажыцьцяўленьня рабочых мерапрыемстваў па аздараўленьню ўмоў працы на прадпрыемствах. Між іншым ахова працы пастаўлена вельмі слаба, дзякуючы слабай пастаноўцы работы камісій па ахове працы.

Грунтоўнымі момантамі слабай работы камісій па ахове працы зьяўляюцца:

1. Слабы падбор працаўнікоў у камісіі па ахове працы, у выніку чаго ніякай работы не праводзіцца (пасяджэньні камісій не праводзяцца, плян працы камісій адсутнічае) і недастатковае кіраўніцтва гэтай работай з боку саміх рабачкомаў.

2. Слабае асьведамленьне камісій з Кодэксам Законаў аб Працы, пастановамі і законамі Ураду па пытаньнях аховы працы.

3. Няма сталага нагляду за выкананьнем гаспадарчымі органамі абавязкаў, як па калдагавору, так і па ахове працы, а таксама і прадпісаньня інспэкцыі і няўважлівыя, а ў шэрагу выпадкаў—халатныя адносіны да пытаньняў аховы працы з боку адміністрацыі, дзякуючы чаму маюць месца шэраг парушэньняў, як та:

а) Нявыдача рабочым к тэрміну спэцвопраткі, асабліва ў саўгасах і на лесараспрацоўках.

б) Дрэннае абсталяваньне тэхнікі забясьпекі на прадпрыемствах, лесараспрацоўках, сплаву і г. д., якое выражаецца ў неагараджэньні станкоў і машын трансмісій.

в) Незахаваньне правіл гігіены і санітарыі, выяўляючаяся ў адсутнасьці дастатковай колькасьці ўмывальнікаў, мыла, рушнікоў, кубкаў для вады, падтрыманьня належнай чыстаты ў памяшканьнях.

г) Адсутнічаньне на прадпрыемствах неабходных мэдыкамантаў, аптэчкі хуткай дапамогі.

Усе гэтыя ненармальныя зьявішчы выклікаюць правідловыя нараканьні з боку рабочых і адмоўна адбіваюцца на вытворчасьці працы.

Выходзячы з гэтага, Прэзыдыум ЦП Саюзу пастанаўляе:

1. Прапанаваць Акраддзяленьням, райінструктарам і рабачкомам больш востра паставіць пытаньне аховы працы на прадпрыемствах, для чаго правесьці наступнае:

а) Рабачкомам пераглядзець склад камісій па ахове працы, у напрамку ўкамплектаваньня іх больш актыўнымі і працаздольнымі таварышамі.

б) Скласьці пляны работы камісій па ахове працы і рэгулярна праводзіць пасяджэньні камісій.

в) На пасяджэньнях рабачкомаў і агульных сходах заслухоўваць справаздачы аб дзейнасьці камісій па ахове працы, з мэтай палепшаньня работы.

г) Забясьпечыць камісію адпаведнымі падручнікамі ў рабоце камісій, усімі навейшымі пастановамі аб ахове працы, плякатамі і г. д.

д) Пры праверцы выкананьня калдагавораў гаспадарчымі органамі на агульных сходах асабліва завострыць увагу на выкананьні пытаньняў аховы працы.

2. Камісіі па ахове працы—у асноўным павінны настойліва дабівацца, каб усе пункты калдагавору па пытаньнях аховы працы, а таксама прапановы Інспэкцыі Працы былі поўнасьцю і своечасова выкананы, як та:

1) Выдача к тэрміну спэцвопраткі.

2) Абсталяваньне тэхнікі забясьпекі на прадпрыемствах (агараджэньне станкоў, машын) на лесараспрацоўках, сплаве і г. д.

3) Захаваньне правіл гігіены і санітарыі ў напрамку поўнага забесьпячэньня ўмывальнікамі, мылам, рушнікамі і г. д., дзе гэта патрабуецца.

4) Забесьпячэньне на прадпрыемствах, лесараспрацоўках і сплаве аптэчкамі хуткай дапамогі і

5) Абсталяваньне адпаведных жылішч (баракі) на сэзонных работах (лесараспрацоўкі, торфараспрацоўкі і сплаў).

3. Райінструктарам правесьці (1 раз у 6 месяцаў) раённыя нарады камісій па ахове працы з мэтай інструктаваньня і большага азнаямленьня з іх работай.

4. Прапанаваць Інспэкцыі Працы больш рашуча сачыць за выкананьнем сваіх прапаноў і за парушэньні прыцягваць да строгай адказнасьці. У сваёй штодзённай працы мець цесную сувязь з камісіямі па ахове працы пры абглядзе прадпрыемстваў, адначасова праводзіць пасяджэньні камісій і інструктаваньне апошніх.

# Дырэктывы Ц. П.

*Усім арганізацыям Саюзу Сельгаслесрабочых.*

## Аб удзеле ў прызыве 1907 году.

У бліжэйшы час пачнецца прызыў рабочых і сялян 1907 году нараджэньня ў шэрагі Чырвонае Арміі.

У пэрыяд разгорнутага сацыялістычнага будаўніцтва пры складаных паміжнародных абставінах узмацненьне нашае Чырвонае Арміі і клясавы адбор набывае надзвычайна вялікае значэньне. Пагэтаму перад нашым саюзам стаіць важная задача аказаць прызыўным камісіям і Райвыканкомам максімум садзейнічаньня ў справе клясавага адбору прызыўнікоў.

ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых раіць В/правесьці наступныя мерапрыемствы:

1) Пытаньні аб прызыве 1907 году абгаварыць на чарговых сходах рабочых і батракоў, увязваючы гэта пытаньне з паміжнародным становішчам СССР і задачамі Чырвонае Арміі, прыцягнуўшы на гэтыя сходы бедняцка-серадняцкую моладзь вакольных вёсак.

2) Усе рабочыя саўгасаў, батракі, пастухі, лесарубы і лясьнікі павінны быць прыцягнуты на сходы і групы беднаты, дзе будуць абгаварвацца сьпісы прызыўнікоў.

3) Рабачкомы і с/рабачкомы папярэдне павінны правесьці нарады тых рабочых і батракоў, якія належаць прызыву. На гэтых нарадах трэба растлумачыць прызываемым рабочым і батраком іх абавязкі як будучых чырвонаармейцаў і азнаёміць іх з жыцьцём Чырвонае Арміі, запрашваючы для гэтага тых таварышоў, якія ўжо служылі ў арміі.

4) Культустановам і насьценгазэтам разгарнуць сярод членаў саюзу і працоўнага сялянства растлумачальную работу, выдзеліўшы ў насьценгазэтах на час прызыву асобныя аддзелы. Прыбраць культустановы лёзунгамі і плакатамі, зрабіць дошку, на якой вывешваць выразкі з газэт і загады аб прызыве для азнаямленьня членаў саюзу.

5) Саюзным арганізацыям, якія знаходзяцца ў прызыўных пунктах, трэба вылучыць падрыхтаваных таварышоў для палітыка-выхаваўчае работы сярод прызыўнікоў ў час прызыву, выдзеліць частку газэт і часопісаў, выпісваемых рабачкомамі і членамі саюзу для забясьпячэньня агітпунктаў, падабраць і выдзеліць з складу бібліятэчак рабачкомаў адпаведную літэратуру для часовага карыстаньня на агітпунктах.

6) Узяць на сябе ініцыятыву па арганізацыі для прызыўнікоў спэктакляў і канцэртаў, прыцягваючы да гэтае справы сілы другіх саюзаў.

7) Акраддзяленьням уключыць у маршруты кіно-перасовак прызыўныя пункты В/акруг для абслугоўваньня прызыўнікоў бесплатнымі кіно сэансамі.

8) Рабачкомам і с/рабачкомам арганізаваць провады тых рабочых і батракоў, якія будуць прызваны ў Чырвоную Армію, не дапушчаючы на гэтых вечарох п'янкі, паклапаціцца аб забясьпячэньні прызваных таварышоў сродкамі і ўстанавіць з імі пісьмовую сувязь, якую падтрымліваць да канца іх службы ў арміі, а таксама ўзяць на сябе абавязак па матар'яльнаму забясьпячэньню сямей прызваных у армію (прадастаўленьне работы, захаваньне кватэр у саўгасах і інш.)

Работу трэба паставіць так, каб ні адзін клясава чужы элемент не папаў у шэрагі арміі, каб ня было ні воднага батрака і с./г. рабочага, які-б ухіліўся ад прызыву.

Ход работы саюзу па ўдзелу ў прызыве шырока асьвятляецца ў друку.

З таварышоўскім прывітаньнем:

Старшыня ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых Бел. **Вайтэнкаў.**

Сакратар ЦП **Аскерка.**

## Пастанова Савету Народных Камісараў БССР

### пра абавязковае дзяржаўнае страхаваньне работнікаў лясьніцтваў на выпадак гвалтоўнай сьмерці ці калецтва іх у сувязі з выкананьнем службовых абавязкаў і пра забясьпечаньне іх семя'ў.

Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Правясьці з пачатку 1929-30 бюджэтнага году абавязковае дзяржаўнае страхаваньне лясьнікоў, аб'ездчыкаў на выпадак гвалтоўнай сьмерці ці калецтва ў сувязі з выкананьнем імі службовых абавязкаў.

2. Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства і Кіраўніцтву Дзяржаўнага Страхаваньня зрабіць генэральны дагавор аб страхаваньні паказаных у арт. 1 гэтае пастановы работнікаў. У гэтым дагаворы павінен быць прадугледжан абавязак Народнага Камісарыяту Земляробства выплачваць Кіраўніцтву Дзяржаўнага Страхаваньня страхавыя прэміі па льготнаму тарыфу з страхавой сумы у 1000 руб. на выпадак сьмерці і 1000 руб. на выпадак інваліднасьці застрахаваных.

3. Устанавіць у каштарысе Народнага Камісарыяту Земляробства выдачу аднаразовых дапамог усім лясным работнікам, якія мелі матар'яльную страту ад падпалу, рабаваньня і іншых гвалтоўных дзеяньняў у сувязі з выкананьнем імі службовых абавязкаў.

Разьмер аднаразовых дапамог у кожным паасобным разе вызначаецца Народным Камісарыятам Земляробства разам з Цэнтральным Праўленьнем Саюзу сельскагаспадарчых і лясных рабочых.

Нам. Старшыні Савету Народных Камісараў БССР **М. Карклін.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнай Нарады БССР **М. Калевіч.**

7 жніўня 1929 г.
г. Менск.

## Усім Саюзным арганізацыям.

*Па статчастцы.*

У канцы ліпеня г.г. па усіх саюзных арганізацыях разасланы статблянкі для запаўнечьня іх адпаведнымі зьвесткамі і накіраваньня ўсяго матар'ялу к 5—10—му жніўня ў Акрадзяленьне, а па Менскай акрузе—у ЦП саюзу (гл. Бюлетэнь ЦП № 9). Сёньня ўжо 25—е жніўня, а шмат рабачкомаў і сельрабачкомаў зьвестак не прыслалі.

ЦП саюзу прапануе па атрыманьні гэтага ў 2—х дзённы тэрмін выслаць:

1)Картку хуткага вучоту аб колькасьці членаў саюзу на 1—е жніўня —форма для сельрабачкомаў № 12, а для рабачкомаў і мясцкомаў № 20.

2)Картку аб нацыяльным складзе членаў саюзу (форма ЦСПСБ).

3)Картку аб складзе рабачкому пасьля апошніх перавыбараў—форма для сельрабачкомаў № 14, а для рабачкомаў—№ 21.

4) Зьвесткі аб працдагаворнай рабоце (колькасьць заключаных дагавораў на батракоў на 1/VIII—статформа № 17).

5) Зьвесткі па вучоту трактарыстых і рамонтных рабочых.

Райінструктарам саюзу прапануецца пры наведваньні рабачкомаў прасачыць, каб імі ўсе зьвесткі былі безадкладна запоўнены і адасланы ў Акраддзяленьне, а па Менакрузе—ў ЦП саюзу,

Акраддзяленьням саюзу неабходна паступіўшы матар'ял ад рабачкомаў зараз жа распрацаваць і накіраваць у ЦП усе зьвесткі не пазьней 5-га верасьня г. г.

У выпадку адсутнічаньня блянкаў —тэрмінова патрабуйце іх ад ЦП саюзу.

Сакратар ЦП—**Аскэрка.**

Кіраўнік спраў—**Ф. Юшкевіч.**

*Усім саюзным органам.*

Да гэтага часу ў саўгасах, лясніцтвах, лесараспрацоўках і другіх прадпрыемствах з боку саюзных органаў не праяўлена ініцыатыва ў арганізацыі добраахвотных пажарных дружын, а гаспадарчымі органамі нічога ня зроблена ў справе абсталяваньня адпаведным інвэнтаром і рамонту маючагася інвэнтару.

Надаючы вялікае значэньне справе арганізацыі пажарных дружын падрыхтоўцы і вучоту удзельнікаў пажарных дружын, ЦП саюзу прапануе:

1. Рабачкомам саўгасаў, лясьніцтв, лесараспрацовак там, дзе яшчэ не арганізаваны пажарныя дружыны, зараз-жа прыступіць да арганізацыі дружын, прыцягваючы ў іх працу ўсіх рабочых і служачых даннага прадпрыемства, на агульных сходах абраць праўленьне з таварышоў, ведаючых пажарную справу. Практыкаваць праводзіць, асабліва ўлетку, 2 разы ў месяц рэпэтыцыі—трывогі, з мэтай праверкі падрыхтаванасьці рабочых у барацьбе з пажарам.

2. На вытворчай нарадзе абгаварыць пытаньне аб практычных мерапрыемствах па ўзмацненьню работы пажарных дружын, праверыць што зроблена гаспадарчымі органамі па забясьпячэньню гэтых машын адпаведным інвэнтаром (машыннымі насосамі, бочкамі і г. д.) і рашуча дабівацца, каб арганізаваныя пажарныя дружыны былі забясьпечаны адпаведным інвэнтаром.

3. На старонках друку, асабліва „Бел. Батрак“ асьвятліць становішча працы пажарных дружын, з мэтай завостраньня ўвагі ўсіх рабочых мас справе арганізацыі пажарных дружын.

Заг. АТЭ ЦП Саюзу **Эльперын.**

Кіраўнік спраў ЦП **Юшкевіч**.

**Выдавецтва ЦП Саюзу Сельгаслесрабочых БССР.**

Адказны рэдактар – **Вайтэнкаў.**
Намесьнік яго: **Аскерка, Юшкевіч.**

Галоўлітбел № 2345. Тыраж 1200 экз. Друкарня Менспраўдому.